Hod VIII. Luty 1936 h. № 2.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



V I L N I A

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 2:



**АД РЭДАКЦЫІ: Гэты нумар „Шляху Моладзі", падобна, як і першы, выйшаў з незалежных ад рэдакцыі прычын, з апазьненьнем, за што вельмі перапрашаем усіх нашых Паважаных Чытачоў. Адначасна паведамляем, што на далей будзем старацца, каб „Шл. Мол." выходзіў акуратней і ўрэшце просім усіх тых, хто дагэтуль непрыслаў належнае нам складкі, зраб'іць гэта магчыма найхутчэй.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O. o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź - ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода— 1 зл., на год—2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Год VIII. | Вільня, Люты 1936 г. | № 2 (88).


**Міхась Машара**

* * *

То ня сьнег за вятрамі ў пагоні,
Не мяцель замахала крылом;
То ляцяць белагрывыя коні,
Гэта пух лебядзіны кругом.
Гэта сыплюцца белыя краскі;
Цьветабоі вішнёвых садоў.
Гэта чары зімовае казкі,
А ня белая накіп сьнягоў.
І так хочацца сэрцам паверыць,
Што ня гурбамі сьнег пад акном,
А заснуў, заблудзіўшыся лебедзь,
Захаваўшы свой дзюб пад крылом.
І хай кажа мне розум цьвярозы,
Што зімой нідзе красак няма:
А нашто так прыгожы марозы
Зацьвіцелі на шыбах акна?

1936

**Міхась Васілёк**

## ВЯСНУ ПРАРОЧЫЦЬ

Рудою ворсаю зіма кіселіцца
Па вуліцах — дарогах;
Дзе сьнег арфуючы гула мяцеліца,
Жыцьцё там б'е трывогу.
Пырэсьціць выглядам палі за вёскаю —
Вясну, вясну прарочыць,
Дзе крыж абняўшыся стаіць з бярозкаю,
Стаіць так на узбоччу.
Страха саломенныя ногі зьвесіла
Ды сьлёзна, сьлёзна плача —
Мо' спатыкаючы вясну ей весела,
Ці мо'... пра лёс жабрачы...
Пакінь гаруніцца, страха вясковая,
Вясна асьвежыць грудзі...
На поле выйдзем мы і песьні новыя
З зярнятмі сеяць будзем!

1936.

**Максім Танк**

* * *

1.

Сонца спаткаю пэўна
ня першы...
Ўзойдзе на поўначы, мо на паўдні.
І ў падзямельлі думкі і вершы,
Як лёд на шыбах спаліць ў агні.
З дзён пераЖытых
можа застане
хрыплай катрынкі п'яны напеў;
кашаль з вастрогу, можа каханьне,
шум сіратлівы бульварных дрэў...
І чорным вуглем,
плякат газэтны
крычыць аб штрайку гарнякоў;
крычыць аб крыві, што лявай Этны,
ахварбавала брук вуліц зноў.
На шыбах мокрых,
алядзянелых
чарнеюць толькі кавалкі стрэх.
На брук і думкі ціха, нясьмела
сьцюдзёнай ценьню падаў сьнег.

2

Сілы шмат маем
ў руках мазольных,
разьлітай ў жылах, звонкай як медзь.
Сонца прымусілі-б ноччу чорнай
пажарам новых дзён гарэць.
І сярод вуліц,
зьмешаны з тлумам,
плятуся сяньня не адзін,
з надзеяй новай, з старым сумам,
між непрацёртых каляін.
Па шляху, высыпаным
жвірам,
усё-ж мы пойдзем грамадой
там, дзе даль будучыні шырэй
абняла небасхіл зарой.
І дзён змарнованых
так шкода!
Іх сьнегам занясло з далін.
Але ў час бурны веснаходу
Яны адтаюць між ўспамін...
Перад вачыма з ветрам
белым
з парваных хмар, з бляшаных стрэх.
На брук і думкі зьледзянелай,
сьцюдзёнай ценьню падаў сьнег.

# На беларускім культурным фронце

Беларуская культурная праца пераходзіла ўжо розныя фазы. У меру сіл і магчымасьцяў то ўзмацнялася яна, то йзноў слабла. Калі браць пад увагу апошнія гады, то трэба сказаць, што год таму назад беларуская культурная праца, асабліва на вёсцы, з прычын ад самых беларусаў незалежных, была затрымана. Праўда, у самой Вільні адбываліся розныя лекцыі, сабраньні — гэт. зв. „пятнічнікі“ і інш. Мелі яны бязумоўна значэньне. Аднак усё гэта можна было прыраўняць да падарожнага, які знайшоўся на сьляпым завулку: топчацца па адным і тым-жа месцы, ня бачачы выхаду і не пасоўваючыся наперад. Зьбіралася на гэтыя лекцыі часта па некалькі чалавек, а вельмі добра, калі было пару дзесяткаў. Сяньня на беларускія лекцыі прыходзяць **сотні** людзей. Гэта паказвае, што бел. культурная праца ў Вільні пасунулася наперад і што беларускія культурнікі ў Вільні выйшлі ўжо з сьляпога завулка на шырокі шлях.

Гэта ў Вільні. А што на вёсцы?

На вёсцы зьмена на лепшае малая. Чаму?

Перад усім, ясна, таму, што там усякая беларуская праца напатыкае на большыя перашкоды натуры палітычнае, ад беларусаў незалежнае, каторыя параліжуюць ўсякія пачынаньні. Далейшай-жа прычынай будзе тое цяжкое матар'яльнае палажэньне бел. культурных арганізацыяў, якое пры найлепшай ахвоце не дазваляе ім выслаць на вёску інструктароў і лектараў, каторыя фактычна пінны былі-б заняцца і кіраваць там культурнай працай.

Як бачым, магчымасьці культурнае беларускае працы на вёсцы вельмі агранічаныя, тым больш, што гурткі бел. культ.-асьветных арганізацыяў з кожным днём з тае ці іншае прычыны адміністрацыйныя ўлады ліквідуюць.

Дык што-ж рабіць? Вось-жа трэба старацца за ўсякую цану ўтрымаць тое, што ёсьць, тое, што маем. Далей, трэба старацца перамагаць усе перашкоды і закладаць новыя гурткі беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў (напр. гурткі Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры), а дзе не ўдасца гэтага зрабіць, там трэба праводзіць беларускую культурную працу праз арганізацыі польскія. Так напр. можна і ўжо многа дзе ладзяць беларускія прадстаўленьні ад імя „Колаў Мл. Вейскей“, Пажарнай Стражы і інш. Ад імя іх трэба так-жа ладзіць беларускія лекцыі, закладаць беларускія бібліятэкі і г. д. Апрача таго трэба праводзіць культурную працу хатнім спосабам, г. зн. зьбіраць сваіх знаёмых (рабіць гэта закон нам дазваляе) і вясьці сярод іх акцыю самаадукацыі: вучыць іх беларускай граматы, чытаць лекцыі з галіны бел. літаратуры, гісторыі, географіі, або адраджэнскага бел. руху, а таксама закладаць прыватныя бел. бібліятэкі.

Хто-ж цяпер чытаў-бы такія лекцыі?

Вось-жа ня трэба чакаць на нейкіх спэцыяльных лектараў, інструктараў з Вільні, а трэба брацца за гэтую справу маладым беларускім вясковым інтэлігентам. Праўда, ня лёгка апрацаваць на вёсцы рэфэрат, ня маючы блізка добрае бібліятэкі. Але йзноў ня трэба шукаць чагось надзвычайнага, а трэба ўзяць адпаведную бел. кніжку, напр. Ад. Станкевіча: „Да гісторыі палітычнага беларускага вызваленьня" і апіраючыся на ёй, або і проста з яе можна прачытаць цэлы цыкль лекцыяў аб бел. вызваленчым руху. Такія-ж узноў кніжкі таго-ж Ад. Станкевіча аб Скарыне, Багушэвічу, Сваяку, Зязюлі могуць служыць як асновы да рэфэратаў, або проста могуць быць рэфэратамі з галіны гісторыі бел. літаратуры. Гэткіх і падобных падручных кніжак да апрацаваньня рэфэратаў ёсьць многа і мы пастараемся аб іх напісаць. Цяпер-жа ўсіх заклікаем зьвярнуць на гэта ўвагу, брацца за працу і, ня гледзячы на ўсе труднасьці,ісьці ў нясьведамыя, або мала сьведамыя неасьвечаныя масы, асьвячаць іх і ўсьведамляць у духу нацыянальна беларускім. — Памятайма, што асьвета — гэта найвярнейшы і найлепшы наш саюзьнік!

Я. Н.

## Suśvietnyja kulturnyja jubilei
### ŭ 1936 hodzie

Sučasnaja kultura čałavieka — heta suma pracy i tvorstva pieravažna paasobnych ludziej, jak ciapierašnich, tak i pamioršych. Heta jany, praz svaje muki i achviary, dali śvietu ŭsie kulturnyja dabradziejstvy, z katorych karystajemsia i my, biełarusy.

Dyk uspaminam ichnych imionaŭ, źviazanych z tymi ci inšymi faktami kulturnaha tvorstva, jubilei katorych prypadajuć u 1936 hodzie, ušanujma ich zasłuhi.

Jubilei hetyja nastupnyja:

5-ja ŭhodki — 1931 h.; Post-Hatty pieršy na aeraplanie ablacieŭ naŭkoła ziamli.

20-ja ŭhodki — 1916 h.: Vynachod katodnych lampaŭ u radyjotechnicy j tankaŭ u vajskovaści.

30-ja ŭhodki — 1906 h.: Vynachody: Rumezram radyjotelefonii, Vin'am — radyjatara, Braun'am — kantaktnaha detektara, Santos-Diumon'am — aeraplanu z kołami da padniaćcia.

40-ja ŭhodki — 1896 h.: Vynachod Pella'm elektryčnaj syreny. Adkryćci: radyjoaktyŭnaści — Bekerel'am; bacylaŭ paratyfusu — Bryon'am; bacylaŭ chaleryny — Ašar'am i Bensod'am; uzajemnaha pranikańnia cieł — Roberts-Osten'am. Paluboŭnyja (treciejskija) sudy I-y raz uviedzieny ŭ Eŭropie (u Anhlii). I-ja Olimpijskija mižnarodnyja hulni ŭ Afinach. Śmierć Bičerstou — amer. piśmieńnicy.

50-ja ŭhodki — 1836 h.: Vynachod Viže'm biazdymnaha porachu. Pabudavana u Manhejmie (Niamieččyna) l-šaja ŭ śviecie fabryka benzynavych aŭtamabilaŭ. Zasnavana Švejninher'am u Hejdelberzie (Niamieččyna) l-ja ŭ śviecie sanatoryja dla lačeńnia ad atłuščańnia. Śmierć Ranke—niam. historyka, Śmierć Šeffela—niam. romanistaha.

75-ja ŭhodki — 1861 h.: Vynachody: Rejs'am — telefonu; Erykson'am — bronienosca; Kare — mašyny dla štučnaha vyrabu lodu; Dinker'am — dracianoj viarovačnaj darohi. Adkryćci: Kruks'am—amtaliju; Bunzen'am i Kirchof'am — rubidyju i ceziju; Hrumberg'am — mineralnaha patašu. Śmierci: Jloser'a — niam. historyka; Šafaryka — česk. vučonaha, zasnavalnika idei pansłavizmu; Skryb'a — francuskaha dramaturha, tvarca buržuaznaj kamedyi.

100-ja ŭhodki — 1836 h.: Vynachod Grove'm elektryčnaj batarei; vyn. Ryšmon'am lutavańnia hrymučym hazam. Śmierć Amper'a — fran. fizyka.

125-ja ŭhodki — 1811 h.: Vynachod: Tralles'am areometru — śpirtamieru; Smit'am — mechaničnaj žniviarki-kasiłki; Blekinson'am—l lokomotyvy dla čyhunki i im-ža—zubčataj čyhunki. Adkryćcio Devi-m fosgienu; Bio'm — polaryzacyi śviatła prostym pierałamleńniem; adkryćcio jodu. Atrymańnie Kirchhof'am vinahradnaha cukru z krachmału. Figje zastasavaŭ kaściany vuhal da sietravańnia buračnoha soku. Śmierć Šeńje — franc. dramaturha i liryka.

175-ja ŭhodki — 1761 h.: Adkryćcio Aŭenbruger'am perkusii — vysłuchivańnia chvoraha sposabam pastukivańnia. Śmierć Ryčardson'a - anhiel. poety, tvarca moralizatarskaha siamiejnaha ramanu.

200-ja ŭhodki - 1736 h.: vyn. Bello'm sympatyckich čarniłaŭ.

250-ja ŭhodki — 1686 h.: Adkryćcio Leibnic'am intehralnaha vyličeńnia. Zasnavańnie Mentenon'aj l-j škoły dla žančyn. Śmierć Kryžaniča — charvackaha vučonaha, pieršaha prapaviednika pansłavizmu.

300-ja ŭhodki — 1636 h.: Vynachod Heryke'm pneŭmatyčnaj mašyny.

400-ja ŭhodki — 1536 h.: Śmierć Erazma Roterdamskaha, niam. humanistaha.

500-ja ŭhodki — 1436.: Vynachod Hutenberg'am sposabu drukavańnia knihaŭ asobnymi litarami.

Češć tvarcom kulturnaha dabrabytu čałaviectva!

*U. Paŭ—ski.*

# Анатоль Курдыдык аб Беларусах.

У канцы мінулага 1935 году, як мы ўжо ў сваім часе пісалі, адведаў Вільню шырака ведамы украінскі журналіст і паэт Анатоль Курдыдык. Найвялікшым яго жаданьнем было на месцы пазнаць Беларусаў, — нашых дзеячой, літаратараў, нашыя ўстановы, арганізацыі ды агулам жыцьцё і працу.

Нядоўга быў у Вільні Паважаны Госьць. Аднак і за кароткі час быстрым вокам журналіста пасьпеў ён шмат пазнаць наша жыцьцё і нашыя абставіны, а чулым сэрцам паэта глыбака адчуў перажываныя нашым народам няшчасьці, прыгнечаньне і недастаткі. Падарожжа і пабыўка А. Курдыдыка ў Вільні не асталася бяз рэха. Вось на пачатку бягучага году ў штодзеннай украінскай львоўскай газэце „Новый Час“, паявіўся вялікі артыкул аб нашым маладым песьняры Міхасю Машары, якога здаецца А. К. найбольш з маладых бел. паэтаў успадабаў. Пасьля быў надрукаваны вялікі артыкул рэд. А. Курдыдыка аб Беларусах у вялікім палітычным украінскім журнале „Шлях Нацыі“ (№ 1). Праўда, ёсьць у гэтым артыкуле недакладнасьці інфармацыйнага характару, але гэта бадай ня мае вялікага значэньня. Затое колькі там выражана мілых і прыязных для Беларусаў пачуцьцяў! Ды на гэтым не канец.

24.I.35. рэд. А. Курдыдык прачытаў у Львове, у залі украінскага Т-ва „Луг“, рэфэрат аб Беларусах пад Польшчай, пад уражаньнем якога дыр. І. Юшчын прыпомніў свае ўспаміны з супольнае з беларусамі працы і падзяліўся імі з прысутнымі, а дырыгент хору „Лугу“ абяцаў навучыць свой хор пяяць беларускія песьні і задэманстраваць іх для украінцаў.

Далей, у № 2 украінскага журналу „Життя і Знання“ знаходзім даволі вялікі артыкул рэд. А. Курдыдыка аб Беларускім Музэі ў Вільні.

Пішучы аб гэтым усім сапраўды трудна ўстрымацца, каб ня выразіць Паважанаму Рэдактару А. Курдыдыку падзякі за інфармаваньне і абзнаямленьне украінскага грамадзянства з нашай Бацькаўшчынай, з нашымі беларускімі адраджэнска-вызвольніцкімі імкненьнямі, з нашым народам, ды за стараньні навязаньня між Украінцамі і Беларусамі сталай лучнасьці, якое вымагае наша аднолькавае бадай палажэньне і нашы аднолькавыя імкненьні.

Закончым-жа пажаданьнем, каб беларуска-украінскае супрацоўніцтва разьвівалася на далей памысна, каб ахапіла ўсе галіны жыцьця, ды каб спрычынілася да хутчэйшага спаўненьня найвялікшага ідэалу Беларускага і Украінга Народэў.

Я. Н.

# Пісьмо беларускіх дзяўчат з Горадзеншчыны

На просьбу горадзенскіх дзяўчат зьмяшаем ніжэй іх пісьмо, зазначаючы адначасна, што будзем старацца стварыць у „Шляху Моладзі" аддзел для дзяўчат. Пры гэтым заклікаем усіх, хто можа прысылаць у гэты аддзел матар'ялы, асабліва пажаданы ўзоры народнага вышываньня, якіх між іншым ужо просяць ніжэй дзяўчаты з Горадзеншчыны.—Рэд.

З году ў год нашыя беларускія жанчыны засядаюць да кудзелі. Круцяць яны калаўрот, а ў галаве поўна думак: колькі гэта яны выткуць дываноў, радзюжак, абрусоў, ручнікоў, што вышываць, а дзе каронку даць? А скуль, з якіх вёсак дастаць, ці як самым выдумаць, узоры?—У нас, у Горадзеншчыне, дзяўчата асабліва за гэта бяруцца і рукі маюць здатныя. Дый ня дзіва, бо-ж ня першы год на Беларусі ткуць, вяжуць, вышываюць. Нашы маткі, бабкі і прабабкі гэта рабілі і кожная з іх дбала, каб работа была найпрыгажэйшая, ды каб мець усяго поўныя куфры. Дзякуючы гэтаму маем мы многа розных узораў, якія цяпер далей самастужна разьвіваюць беларускія дзяўчаты. Вось напр. у калесьніцкай воласьці дзяўчаты ткуць сукно так, што выглядае яно, як купленае (фабрычнае). У Крынскай узноў воласьці гурток вясковых жанчын наладзіў выстаўку сваіх тканінаў, блюзак і інш., дык зьехалася на яе многа розных „паноў"-чужынцаў, зрабілі забаву, а потым апісалі яе ў газэтах, ды ўсю заслугу разьвіцьця ткацтва і вышываньня прыпісалі сабе. Як падумаем аб гэтым, дык неяк жаль бярэ за сэрца, чаму гэта „паны" маюць хваліцца нашай работай, нашымі здольнасьцямі? Няўжо-ж мы самі ня зможам паказаць сьвету таго, што маем і далей нашыя самадзелы разьвіваць бяз чужое „апекі". Наша жанчына праз сотні гадоў ня вучаная, цёмная, ня прызнаная і адсунутая ад грамадзкага жыцьця, выдала пры сьвеце лучыны, або газоўкі, недасыпаючы многа, многа ночаў, тысячы прыгожых, мастацкіх твораў. Дык ці-ж можам мы пазволіць, каб гэты наш скарб загінуў, каб яго ад нас забралі? — Ніколі!

Дарагія Сёстры, беларускія студэнткі! Вы бываеце ў местах, спатыкаецеся з markрознымі людзьмі. Вы напэўна многа можаце зрабіць і дапамагчы нам, каб далей разьвіваць наш самадзел, наша творства, каб паказаць нашу працу культурнаму сьвету. Дык просім Вас, памажэце нам у гэтым.

Паважаная Рэдакцыя! Ува ўсіх бадай газэтах ёсьць аддзелы для жанчын, у якіх пішацца, як шмінкавацца, абеды варыць і г. д. Нам, беларускім дзяўчатам, шмінка не патрэбна, дый абед мы патрапім з свае поснае бульбы зрабіць. Але вось у такім аддзеле патрэбны нам узоры вышываньня і іншыя карысныя парады, якія-б памагалі нам у працы. Дык не адмоўцеся і зрабеце ў „Шляху Моладзі аддзел для беларускіх дзяўчат. *Дзяўчаты з Горадзеншчыны.*

# Sioletnija olimpijskija zimovyja ihry

Ad 6 da 16 lutaha sioleta ŭ Niamieččynie ŭ Garmiš-Partenkirchen adbylisia zimovyja olimpijskija ihry. Heta była zimovaja častka ihraŭ, jakija vypadajuć na 1936 hod, i adbuducca ŭletku, jak praciah h. zv. „Olimpijady“ 1936 hodu.

Raniej, čymsia skažam pra sioletniuju zimovuju olimpijadu, uspomnim naahuł pra olimpijskija ihry, jakija adbyvalisia ŭ staradaŭnaj Hrecyi, i vykopyvanyja archeolohami pamiatki katorych, ad 1875 da 1881 h., nasunuli francuzu Pera Kubertenu dumku adradžeńnia henych staradaŭnych olimpijskich ihraŭ.

U 1894 h. Kuberten sklikaŭ ŭ Paryž kanhres vučonych pedahohaŭ, fizyčnych vychavaŭcaŭ i spartoŭcaŭ usich kulturnych narodaŭ i zaprapanavaŭ im stvareńnie ahulnych spartovych zavodkaŭ usich haspadarstvaŭ, padobna staradaŭnym Hreckim Olimpijskim ihram.

Dumka Kubertena była pryniata i mieła ščyrych staronnikaŭ uva ŭsich cyvilizavanych narodaŭ. Na henym kanhresie zasnavaŭsia Mižnarodny Kamitet Olimpijskich Ihraŭ, metaj jakoha była ruplivaść pra rehularnaje (što čatyry hady) ładžańnie mižnarodnych olimpijskich ihraŭ, palepšańnie ich i staŭlańnie sportu na vyšyni vymohaŭ času, kultury i viedy.

U Kamitet Olimpijskich Ihraŭ uvajšło 41 haspadarstva, jakija ŭzialisia za praviadzieńnie ŭ žyćcio dumak Kubertena. Dziakujučy hetamu adbylisia mižnarodnyja olimpijskija ihry ŭ hetkich miestach: u 1896 h. u Atenach, 1900 — u Paryžy, u 1904—u St. Lui, u 1908 h.—u Londanie, u 1912—u Štokholmie, u 1916 mieli adbycca ŭ Berlinie, ale z pryčyny vajny nie adbylisia, u 1920 byli ŭ Antverpii, u 1924 h — u Paryžy, u 1928 — u Amsterdamie, u 1932 h. u San-Francisko, a ŭ 1936 h. adbyvajucca ŭ Berlinie. Častka ich, h. zn. zimovyja olimpijskija ihry adbyvalisia ŭ Garmiš Partenkirchen — miastečka kala Berlina ŭ Niamieččynie.

U čaćvier 6 lutaha vyšmienavanaje miastečka mieła śviatočny vyhlad. Usiudy pavievali niamieckija i olimpijskija ściahi. Nad damami, dzie zakvataravalisia pryjechaŭšyja na ihry čužyncy, pavievali ichnija nacyjanalnyja ściahi. A hadzinie 11-aj harmatnija strely abvieścili adkryćcio ihraŭ. Paśla adbyłasia defilada-pachod i prysiaha spartoŭcaŭ, što buduć česna zmahacca ŭ zavodkach.

Olimpijskija ihry ściahnuli ŭ Garmiš-Partenkirchen mnostva ludziej z usiaho śvietu. Pryjechała na ich až 320 žurnalistaŭ z roznych krajoŭ, 100 fatahrafaŭ, 100 filmovych i 150 radyjo-reporteraŭ.

Na zimovaj sioletniaj Olimpijadzie byli, jasna, spartovyja ihry na śniahu i lodzie, a imienna: jazda na łyžach, kańkoch i sankach, skoki na łyžach, vykonvańnie na kańkoch roznych davoli trudnych chvihuraŭ i inš.

Pierad aficyjalnym adkryćciom ihraŭ, jašče 2 lutaha adbyvalisia probnyja skoki na łyžach. Na hetych probnych skokach najdalej skočyli nastupnyja spartoŭcy: Erikson Swen (Šved)—81 metraŭ, Waljomen Lawri (Finlandziec)—77 metraŭ, Marusaž Stanisłaŭ (Palak)—77 metraŭ, Mikkels (Amerykaniec) —78 metraŭ i h. d. Padčas samych aficyjalnych ihraŭ vyniki skokaŭ byli trochi mienšyja. Pieršaje miesca ŭ skokach na łyžach i załaty olimpijski medal zdabyŭ Birger Rund (Norvežac). Pieršaje i druhoje miesca ŭ fihurovaj jaździe na kańkoch žančyn zaniała słaŭnaja Sonia Hein (Švedka).



Adzin z mnohich źnimkaŭ z sioletnich spartovych Olimpijskich Ihraŭ.

Pieršaje miesca i załaty medal za „Hokej“ (ihra na lodzie) atrymała Anhielskaja družyna. Ahułam biaručy, pavodle atrymanych załatych medaloŭ, paasobnyja narody stajać u nastupnym paradku: Norvehija 7 medaloŭ, Švecyja — 2 medali, Finlandyja — 1, Ameryka — 1, Aŭstryja — 1, Anhlija — 1 i Švajcaryja — 1. Inšyja narody załatych Olimpijskich medaloŭ nie atrymali. Apráča załatych medaloŭ, byli jašče pryznavanyja niekatorym narodam medali siarebranyja i branzovyja.

Kančajučy hety ahlad, treba tolki vyjavić žal, što na henych Olimpijskich ihrach nie pavievaŭ naš biełaruski ściah. My adnak vierym, što ŭ budučynie, naš bieła-čyrvona-biely ściah, zajmie svajo miesca miž ściahami inšych narodaŭ i na Olimpijskich Ihrach...

Uł. K.

# Tryvožnaje recha z Dalokaha Ŭschodu

Kiepska stała na śviecie. Kryzys, biezraboćcie, nendza, hoład i choład. Ludzi žyvuć tolki z dnia na dzień, čakajučy niejkaj źmieny na lepšaje. Ale pakul žadanaja pieramiena nastupić, nas moža ŭžo spatkać novaja suśvietnaja vajna. Mahčymaść jaje vybuchu stanovicca z kožnym dniom usio bolš praŭdapadabniejšaj. Śviedčać ab hetym, miž inšym, siańniašniaja kryvavaja italijanska-abisynskaja vajna, ahulnaje zbrajeńnie dziaržaŭ (asabliva Niamieččyny) i apošnija niazvyčajnyja padziei na Dalokim Ŭschodzie.

Japonija, jakoje abšar zajmaje 382 tys. kv. klm. i jakaja naličvaje 66,5 miljonaŭ žycharaŭ, kinuŭšy klič „Azija dla azijataŭ", zavajoŭvaje pastupova štoraz bolšyja abšary kitajskich ziemlaŭ, zavodziačy svaje paradki, dy prybližajecca da Sybiru, što vielmi tryvožyć SSSR. Apošnija hazetnyja viestki padajuć, što ŭžo dachodziła pamiž savieckimi žaŭnierami i žaŭnierami na ŭsłuhach Japonii da aružnych sutyčak.

Z usiaho vidać, što Japonija, a asabliva jaje maładyja fašysty, imknucca zaŭładać usiej Azijaj a pierad usim chočuć padzialić Kitaj na roznyja drobnyja dziaržavy pad svajoj apiekaj.

Cikava i na časie budzie adznačyć, što Kitaj zajmaje abšar 11174 tys. kv. klm. i naličvaje 450 miljonaŭ žycharaŭ. Praisnavaŭ Kitaj užo kala 5-cioch tysiač hadoŭ, uvieś čas stojka baraniŭsia ad vorahaŭ, i dziela svajej abarony ŭ dalokaj minuŭščynie pabudavaŭ słaŭny vializarny mur. Heny mur kitajcy pačali budavać kala 2500 hadoŭ nazad, a skončany byŭ jon za try viaki pierad Naradzinami Chrysta. Budavańnie jaho, znača, ciahnułasia bolš jak try stalećci. Dyj nia dziva, bo-ž mur hety ciahniecca, abkružajučy Kitaj z poŭnačy, na praciahu kala 5,760 kilametraŭ. Vyšynia kitajskaha muru vynosić ad 6 da 8 metraŭ (3–4 sažniaŭ), a šyrynia takaja, što pa im vyhodna moža jechać šaściora konnych ludziej u rad.

Kitaj — kaliś mahutnaja z vysokaj kulturaj dziaržava — siańnia asłableny nutranymi vojnami i roznymi niaščaściami, jak pavodki i inš., nia moža suproćstavicca daloka ad jaho mienšaj Japonii.

Mahčymy siańnia padziel Kitaju na mnohija aŭtanomnyja adzinki pad apiekaj Japonii źjaŭlajecca vialikaj niebiaśpiekaj dla haspadarčych intaresaŭ najsilniejšych i najbolšych dziaržaŭ śvietu, jak Złučanych Štataŭ Paŭnočnaj Ameryki, Anhlii i navat Francyi. Nastup Japonii na Aziju, jaje sajuz z Niamieččynaj, katoraja ŭściaž pahražaje zbrojnym pachodam na SSSR, zvaročvaje vočy ŭsiaho śvietu na Daloki Ŭschod, dzie sapraŭdy hroznaje pałažeńnie.

---

26 lutaha sioleta ŭ stalicy Japonii, Tokijo, zbuntavałasia niekalki addziełaŭ japonskaha vojska, na čale jakich stała hrupa maładych aficeraŭ. Zbuntavanaje vojska ŭ chutkim časie

zaŭładała toj častkaj miesta, dzie mieścicca budynak uradu i chaciela zabrać ŭ svaje ruki ŭładu. Pry hetym byli zabityja: dva ministry, adzin admirał i šmat inšych vysokich uradaŭcaŭ, u liku da 100 asob. Mieŭ być zabity i premjer uradu, ale jon u paru schavaŭsia. Paśla kolki-dniovaj baraćby pieramahło vojska viernaje ŭradu, a pravadniki buntu pakončyli samahubstvam.



Kitajski Mur.

Bunt hety byŭ sarhanizavany hrupaj maładycn aficeraŭ-fašystaŭ, i byŭ śkiravany praciŭ uradu za toje, što jon prajaŭlaje małuju byccam zachopnickuju palityku ŭ Azii i nieenerhična vystupaje suproć Savietaŭ.

Treba skazać, što choć urad i zdušyŭ zbuntavanaje vojska, to adnak bunt heny, biazumoŭna, budzie mieć svoj upłyŭ na japonskuju palityku i jasna padmacoŭvaje japonskija zachopnickija imknieńni ŭ Azii. B. Čanuk.

## Z KRAJU

— **Vaŭkavyščyna.** Rodnaja mova heta najbolšy naš skarb, jakoha nichto nia moža ad nas zabrać. Hety skarb treba naležna canić i jaho baranić. Rodnuju movu treba šanavać i nia čuracca jaje, a chto tak robić, tamu hańba i styd, i toj nia hodny imia čałavieka. Heta ŭsio asabliva pavinna ŭziać sabie pad uvahu ŭsia biełaruskaja moładź, a pierad usim „druhowie i druchny" z „Katalickaha Stovažyšenia Młodzieży," katoryja nadta časta zabyvajucca ab tym, što jany biełarusy, a svaje rodnaje movy vyrakajucca.

Darahija siabry! KSM ničoha dobraha dla nas nie niasie. Jano varožaje dla našaj Baćkaŭščyny Biełarusi, a hetym samym dla našaha narodu i dla nas samych. Dyk skińcie, Braty Biełarusy, jakija naležać da KSM, ciomnuju zasłonu z vačej, katoruju nakładajuć nam ŭsim roznyja „panki," pramyjcie svaje vočy i hlańcie šyrej na śviet. Zahlańcie ŭ svaju biełaruskuju knižku: tam znojdziecie tuju darohu, toj šlach, pa jakim nam Biełarusam treba jści i katory zaviadzie nas da śvietłaj budučyni.

*Uł. Haravy.*

— **Aksiutava,** Bohinskaj voł., Brasłaŭskaha pav. Hrupa kulturniejšaje moładzi, na čale z dziejnymi i śviedamymi biełarusami J. Pituškaj i T. Jurkievičam, ad imia „Koła Mł. Wiejskiej" ładziła 12.I. sioleta biełaruskaje pradstaŭleńnie. Stavili: „Pieršyja łastaŭki" i „Žbiantežany Saŭka". Pamima taho što „naša" vučycielka jeździačy pa vioskach adhavorvała ludziej, kab nia jšli na biełaruskaje pradstaŭleńnie, to adnak narodu na im było šmat (bolš 150 čałaviek), i pamima tannych biletaŭ, pradstaŭleńnie dało 8 zł. i 80 hr. čystaha dachodu, jaki arhanizatary praznačyli na: „Bieł. Krynicu" (4 zł.), na „Šlach Moładzi" (2 zł.) i na biełaruskija knižki (2 zł. i 70 hr.— Bieł. kniharni „Pahonia" ŭ Vilni.

Pradstaŭleńnie naahuł udałosia. Uražańni ŭ prysutnych byli vielmi dobryja. Artysty-amatary roli svaje vykanali dobra. Asabliva dobra jhrali: M. i K. Pituščanki, A. Dabroŭščanka i J. Pituška.

Treba zaznačyć, što nie abyjšłosia i biez palicyi, jakaja pa niekalki razoŭ adryvała ad pracy J. Pitušku i dapytvałasia ŭ jaho, z jakoj metaj atrymlivaje jon 5 ekz. „Bieł. Krynicy". Urešcie-ž adnak palicyja dała spakoj hram. J. Pitušcy, pazapisvaŭšy usich tych, chto ad jaho atrymlivaje bieł. hazety.

*Januk Padavałka.*

AD REDAKCYI. Jak bačym z hetaje karespandencyi, pry dobraj achvocie, nia majučy navat svaje biełaruskaje arhanizacyi, možna biełaruskuju rabotu pravodzić. I ŭ danym vypadku aksiutaŭskaja moładź moža być klasyčnym prykładam, jak treba i što treba rabić biełarusam, kali „nie ŭdajecca" sarhanizavać svaje arhanizacyi i kali siłkom „vyrastajuć" tut-ža ar-

hanizacyi polskija. Za prykładnuju i karysnuju biełaruskuju kulturnuju pracu na karyść Biełarusi i dziela adradžeńnie Biełaruskaha Narodu, a tak-ža za ŭspamohu dla bieł. vydaviectvaŭ, aksiutaŭskaj moładzi čeść i słava!...

— **Kurapole**, Pastaŭski pav. Moładź našaj vioski ŭ minułym hodzie chacieła sarhanizavać hurtok BIHiK. Pasłali my piśmo ŭ Vilniu, z prośbaj da redakcyi „Šl. Mol.," kab prysłała nam instrukcyju i statut BIHiK. Druki hetyja ŭ chutkim časie pryjšli. Ale ŭ našaj vioscy jość kala pošty palicejski pastarunak, dyk druki trapili tudy. Paśla hetaha na pastarunak paklikali adnaho našaha siabru i doŭha jaho raspytvali. Ureście ŭ chacie jaho zrabili reviziju, ale ničoha nie najšli, aproč časapisu „Šlach Moładzi," katory jon braŭ čytać, ad adnaho dobraha čałavieka. Pa revizii palicyja ŭziała niekalki našych chłapcoŭ „pad nadzor." Pamima hetaha my adnak ad namieru svajho nie adstupajem i dumajem usiož-taki staracca załažyć hurtok BIHiK.

Moładź u nas davoli raźvitaja i my ładzim ad imia „Koła Mł. Wiejskiej" časta biełaruskija pradstaŭleńni, ale razam z polskimi, bo jnakš ciažka, a moža i zusim navat nie mahčyma było-b dastać dazvoł. *Piotra Kurdzionak.*

— **Варэйкі**, Ваўкавыскага пав. Наша моладзь ужо зразумела, што ў злучэньні сваіх сілаў і свае працы можа асягнуць дабрабыт і культуру. Перастала яна ўжо так-жа думаць аб дзікіх алькагольных задаваленьнях, ды ўзялася за культурную працу. І вось 9 і 16 лютага сёлета ў валасной залі моладзь наша ладзіла прадстаўленьні. Ставілі п'еску польскую „Zaluśbiny" і беларускую „Пасланец." — Ясна, польская п'еска тут мусіла быць, бо іначай ня было-б і беларускай. — Ня гледзячы на няспрыяючую пагоду (замець і вялікія маразы), людзей было многа і ня толькі з нашай і суседніх, але нават і з далейшых вёсак. Артысты-аматары ролі свае выканалі добра. Калі кончыліся „Zaślubiny," якія ня надта нашых людзей цікавілі, воплескі чутны былі толькі сям-там. Як-жа пачалі йграць „Пасланца," то на залі ўсьцяж падыймалася бура сьмеху, а на заканчэньне воплескам і канца ня было. Пасьля прадстаўленьня былі танцы. Агулам з прадстаўленьня ўражаньні вельмі добрыя. Заслуга ў гэтым нашых маладых пачынальнікаў на ніве беларускае культурнае працы.

Дык чэсьць ім і слава! *Тіселахім.*

— **Харкі**, Пастаўскага пав. Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў нашай вёсцы 26.І. сёл. ладзіў беларускае прадстаўленьне. Ставілі „Паўлінку" Янкі Купалы. П'еса адыграна была вельмі добра. Людзей было каля 200 асоб. У арганізацыі прадстаўленьня брала ўчасьце пераважна моладзь, за што ёй вялікая слава! *М—ч.*

## Z VYDAVIECKAJ NIVY

**„Калосьсе".**—літаратурна-навуковы часапіс—кніжка 1(5). Вільня 1936. Бач. 64, у мастацкай вокладцы. Фар. 8⁰. Выдае адзін раз у 3 м-цы Бел. Інстытут Гасп. і Культуры. Складка на кніжку 1 зл., на год—4 зл. Адрас Рэд.: Вільня, Завальная 1.

Зьмешчаны ў гэтай кніжцы прыгожыя творы Машары, Арсенявай, Бярозкі, Васілька, Чэмера, Вік-Рэно і інш. бел. літаратараў Заходняй і Радавай Беларусі, а так-жа цэнныя артыкулы з галіны навукі, літаратуры і мастацтва. Апроч гэтага ёсьць вялікі аддзел кнігапісу і цікавая хроніка.

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

— 7-ha lutaha sioleta studenckaja družyna polskich skaŭtaŭ u Vilni ładziła viečar pryśviačany Biełarusam, na jakim referat ab Biełarusi pračytaŭ hram. M. Pieciukievič. Paśla referatu chor vilenskich biełaruskich skaŭtaŭ prapiajaŭ niekalki biełaruskich pieśniaŭ.

— 22-ha lutaha Biełaruskija Skaŭty ładzili ŭ zali Vilen-Bieł. Himnazii viečarynu. Viečaryna ŭdałasia. Było mnoha moładzi, a atrymany dachod papoŭniŭ biednuju skaŭckuju kasu.

## U BIEŁ. STUDENTAŬ

— 23.II. sioleta adbyŭsia Ahulny Hadavy Schod siabroŭ Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu, na jakim vykanaŭčyja i kantrolnyja ŭłady Sajuzu zdali spravazdaču. Spravazdaču schod pryniaŭ da viedama i ŭstupajučamu ŭradu daŭ absolutoryju. U novy Urad BSS ŭvajšli: M. Ščors — staršynia, V. Rubin — vice-staršynia, H. Suchaja — skarbnik, M. Kancelarčyk — sakratar i U. Kazak — haspadar. U Revizyjnuju Kamisiju vybrany: V. Vojtanka, B. Stepovič i M. Jakimiec. Treba skazać, što BSS apošnim časam pracuje davoli enerhična, a siabroŭ naličvaje bolš 50. Usich studentaŭ biełarusaŭ na Vilenskim Universytecie jość bolej 100. Voś-ža varta było-b padumać novym uładam BSS ab pryciahnieńni da svaje arhanizacyi ŭsich biełaruskich studentaŭ u Vilni.

— 21.II BSS ładziŭ dyskusyjny viečar nad prahramaj biełaruskich nacyjanał-sacyjalistaŭ. Prahramu referavaŭ F. Akinčyc.

— 25.II. dr. J. Stankievič pračytaŭ u BSS lekcyju na temu: „Čas i miesca paŭstańnia stara-kryvickaha (stara-biełaruskaha) litaraturnaha jazyka i peryjadv ŭ jaho historyi".

— 3.III tamža dr. J. Stankievič pračytaŭ lekcyju na temu: «Povieści i apaviadańni biełaruskich letapiscaŭ».

— 15.III. sioleta studenckaje T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy i Bieł. Stud. Sajuz ładziać u zali Śniadeckich Vilenskaha Universytetu „Viečar biełaruskaje paezii i pieśni". U prahramie viečaru: referat autorecytacyi, recytacyi, vystupleńni salistaŭ i biełaruskaha choru.

# CHRONIKA

## Z biełaruskaha žyćcia

**BIHiK, TBŠ i školnaja sprava.** Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury i Tavarystva Biełaruskaje Školy prystupili supolna da praviadzieńnia akcyi damahańnia biełaruskich škołaŭ i ŭ hetaj spravie vydali deklaracyju i adozvu da Biełaruskaha Narodu, u jakich ścvierdziŭšy patrebu biełaruskaje škoły, zaklikajuć usich biełarusaŭ składać školnym ŭładam deklaracyi z damahańniem adčynieńnia biełaruskich škoł.

**Zlikvidavali hurtok BIHiK.** Niadaŭna polskija administracyjnyja ŭłady źlikvidavali hurtok Biełaruskaha Instytutu Hasp. i Kultury ŭ m-ku Ikaźn, Brasłaŭskaha pav., za toje, što byccam jon byŭ mała dziejnym. Voś tut i zrazumiej...

**Z dziejnaści Vilenskaha Addziełu BIHiK.** Vilenski Addzieł Biełaruskaha Instytutu Hasp. i Kultury, ab dziejnaści jakoha nia raz my ŭžo pisali, i dalej niaŭtomna pracuje. U m-cy lutym sioleta ŭ zali Instytutu adbyvalisia dalejšyja lekcyi Ks. V. Hadleŭskaha z cyklu historyi Biełarusi. 9.II Ks. V. H. čytaŭ referat „Ab arhanizavańni biełaruskaj dziaržaŭnaści“. 16.II na temu: «Pačatki chryścijanstva na Biełarusi», a 23.II — „Pačatki piśmienstva na Biełarusi“. Paśla hetaha apošniaha referatu, chor BIHiK prapiajaŭ viazanku biełaruskich pieśniaŭ, a dr. J. Malecki deklamavaŭ vieršy biełaruskich paetaŭ. —1.III tam-ža čytaŭ lekcyju Ks. Ad. Stankievič na temu: „Franciš Skaryna i jaho praca“. (Sioleta prypadajuć 450 tyja ŭhodki naradžeńnia Fr. Skaryny).—Ludziej na ŭsich lekcyjach było vielmi mnoha, tak što nia tolki zala, ale i ŭsio davoli vialikaje pamieščańnie Instytutu, było pierapoŭniena.

— 26 lutaha sioleta adbyŭsia Ahulny Hadavy Schod Vil. Addziełu BIHiK. Kiravaŭ schodam inž. L. Dubiejkaŭski, a sakrataravaŭ stud. V. Papucevič. Na schodzie hetym, paśla spravazdačy z dziejnaści ŭstupajučaha ŭradu, jakaja była pryniata da viedama z padziakaj, vybrany novy ŭrad Addziełu ŭ składzie: inž. A. Klimovič - staršynia i siabry Uł. Kazłoŭski, J. Najdziuk, V. Papucevič i A. Šukiełajć. Kandydatami vybrany: A. Šutovič i St. Miadoŭski. Paśla, sarhanizavana była teatralnaja sekcyja, u kiraŭnictva katoraj vybrany: A. Jacyna, J. Bahdanovič, St. Miadoŭski i Uł. Kazłoŭski.

**Sajuz Biełaruskich Lekaraŭ.** Daviedvajemsia, što biełaruskija dachtary-lekary robiać starańni, kab zasnavać Sajuz Biełaruskich Lekaraŭ.

**Novyja biełaruskija pieśni.** Viedamy kampazytar Hrečaninaŭ prysłaŭ niadaŭna z Paryža ŭ Vilniu 10 novych, śvieža apracavanych, solovych biełaruskich pieśniaŭ. Jak bačym, hety słaŭny kampazytar uściaž uzbahačvaje našu kulturu. Za heta Jamu češć i słava!

**Asabistaje.** 13.II ŭ Vostrabramskim kaściele ŭ Vilni adbyŭsia šlub supracoŭnika „Šlachu Moładzi“ Uł. Paŭlukoŭskaha z hram. M. Kurejšo. Novaj biełaruskaj siamji žadajem ščaścia.

**Rekolekcyi dla Biełarusaŭ katalikoŭ.** Ad 5 da 8 sakavika ŭ Vilni, ŭ kaściele św. Mikałaja, adbyvalisia rekolekcyi dla Biełarusaŭ katalikoŭ. Kiravaŭ rekolekcyjami Ks. Ad. Stankievič.

**Schod T-va „Bieł. Kat. Vydaviectva".** 21.II.36 u zali BIHiK ŭ Vilni adbyŭsia Ahulny Hadavy Schod T-va „Bieł. Katal. Vydaviectva", na jakim pryniata spravazdača z dziejnaści ŭradu za 1935 hod i vybrany novy ŭrad T-va ŭ składzie: Ks. A. Stankievič, Ks. V. Hadleŭski, inž. L. Dublejkaŭski, St. Stankievič i J. Bahdanovič a tak-ža Revizyjnaja Kamisija ŭ skład katoraje ŭvajšli: inž. A. Klimovič, A. Šutovič i V. Papucevič.

**Bieł. polonofiły pieražyvajuć kryzys.** Užo blizu dva miesiacy, jak u Vilni pierastaŭ vychodzić biełaruski sanacyjna-polonofilski „Родны Край," orhan biełaruskich polonofiłaŭ hrupy R. Astroŭskaha. Z źmieščanaha-ž ŭ polskaj hazecie „Słowo" piśma pradstaŭnikoŭ Biełaruskaha Navukovaha T-va, katoraje hurtuje kala siabie druhuju hrupu biełaruskich polonofiłaŭ, daviedvajemsia, što polskija palityčnyja kruhi prapanavali kiraŭnictvu Biełaruskaha Muzeju złučyć hety muzej z muzejam polskaha „T-wa Przyjaciół Nauk" ŭ Vilni. Pry hetym była, byccam, navat spyniena dapamoha dla Biełaruskaha Muzeju z boku polskaha i muzeju hrazіła niebiaśpieka. Paśla adnak kiraŭnictvu bieł. muzeju ŭdałosia niejak z hetaj niebiaśpieki vyjści.

**Z BSSR.** Ad 10 da 16 lutaha ŭ Miensku adbyvaŭsia źjezd savieckich piśmieńnikaŭ, na jakim vystupali z referatami i biełarusy. U hetym časie, kali byŭ źjezd, staršynia sajuzu bieł. sav. piśmieńnikaŭ Klimkovič, pračytaŭ u Miensku referat, nadavany praz radyjo, ab biełaruskaj litaratury u Zach. Biełarusi, u jakim vostra krytykavaŭ tvorčaść Arsieńnievaj, Iljaševiča i „padchvalvaŭ" Mašaru, vykazvajučy adnačasna jahonyja „niedachopy" z pryčyny razychodžańnia jaho z kamunistyčnaj ideolohijaj...

**Biełarusy ŭ Łatvii.** Na pačatku m-ca lutaha sioleta siarod biełarusaŭ u Łatvii adbylisia aryšty. I tak fašystoŭska-łatvijskija ŭłady aryštavali pamiž inšymi viedamych biełaruskich dziejačoŭ: K. Jezavitava, Kastyluka, Sićko, Płyhaŭku, Kudraŭcava, stud. Miažeckaha i studentku Słosman. Aryštavanych abvinavačvajuć u tym, što jany byccam chacieli adarvać častku terytoryi ad Łatvii, dy što mieli jany łučnaść z bieł. arhanizacyjami ŭ Polščy. Jasna, zakidy hetyja zusim biezpadstaŭnyja i śmiešnyja, a śviedčać jany ab tym, jak sapraŭdy łatvijskim fašystam nacyjanalizm zaviarnuŭ hałovy i kolki jany majuć strachu.

**Biełarusy ŭ Litvie.** 23.II siol. u Koŭnie adbyŭsia hadavy źjezd siabroŭ Biełaruskaha Kulturna-Praśvietnaha T-va, na jakim była pryniata da viedama spravazdača z dziejnaści ŭradu za 1935 h. i vybrany novyja ŭłady T-va. U hety samy dzień Bieł. Narodny Teatr u Koŭnie ładziŭ pradstaŭleńnie. Stavili: „Čort i baba" i „Vylačyŭ".

---

*Рэдацыя Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

## USIAČYNA

— 7 sakavika sioleta addziely niamieckaha vojska zaniali ŭźbiarežža raki Rejnu jakoje pavodle Versalskaha Traktatu ličyłasia zdemilitaryzavanaj strefaj. Takim čynam niemcy złamali 3 parahraf taho-ž Traktatu, suproć čaho mocna zapratestavali Francyja i Anhlija i padali na Niamieččynu skarhu ŭ Lihu Narodaŭ.

— Apošnim časam hazety padajuć, što italjanskaje vojska byccam raźbiła paŭnočny abisynski front i zabiraje štoraz bolšy abšar abisynskich ziemlaŭ. Nehus, byccam, idzie na ŭstupki i choča z italjancami zaklučyć mir

— U kancy lutaha sioleta adbylisia ŭ Hišpanii vybary ŭ parlamant u jakich bolšaść zdabyła levica.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA.

Anatolu Iversu: Matarjały atrymali, dziakujem,! ale nažal nadrukavać nia možam. Vieršy słabavatyja, a zaklik usio-ž patrabuje „abrezki", katoruju Vy nie dazvalajecie nam rabić.

S. Chmary: Vieršy atrymali, dziakujem. „Nie kažy", jak bačycie ŭžo drukujem u hetym numary, „Viečar" nadrukujem u № 3, a rešta słabyja. Kulhaje ŭ ich forma i mova.

Piotru Kurd—nku: Za prysłanyja karespandencyi ščyra dziakujem, adnu drukujem u hetym, a druhuju nadrukujem u nastupnym numary. Vierš słaby i Vam ich nia radzim bolš pisać. „Šlach Moładzi" budziem vysyłać. Adras M. M. w. Taboły, p-ta Szarkowszczyzna.

Alenie A. i Šalcinskamu: Ščyra dziakujem za miłyja słovy. Prośbu spaŭniajem.

M. Brysu: Vieršy atrymali, na žal — słabyja i da druku nie padchodziać. Čytajcie bolš biełaruskich knižak i pracujcie nad saboj.

A. Michalčuku: Piśmo atrymali. № 89 i 11 „Šl. Moł." vyšlem, što da „Laureataŭ", na žal prośby spoŭnić nia možam, bo heta sprava vymahaje mnoha času, pracy i zusim badaj bieskarysnaja.

V. Burštalu. Matarjały atrymali, dziakujem. Vieršy słabyja, budziem adnak staracca, kab adzin z ich papraviŭšy nadrukavać. Karespandencyju nadrukujem u nastupnym numary. Druki vyšlem. Bolš čytajcie biełaruskich knižak i paznajcie dobra biełaruskuju hramatu dy pravapis, a tady budzie pisać lahčej.

Gilu M.; Śpieŭnika R. Šyrmy darma nia možam Vam vysłać. Kaštuje jon 3 zł. Vypisać možna z Biel. Kniharni „Pahonia", Vilnia, Zavalnaja 1. Statut i instrukcyju BIHiK vysyłajem i žadajem udačy ŭ dobrych namierach.

N. Ulejcy: Prośbu spaŭniajem. Vysłanyja Vam knižki kaštujuć 2 zł., jak pryšlecie hrošy, vyšlem bolš.

M. Siećku i M. Jurysu: Vieršy atrymali, adkaz vyšlem piśmom.

Moładzi v. Karavai i Alašonak: Knižki i „Šl. Moł." Vam vysłany, damahajciesia na pošcie.

Sialanam z Maładečanščyny: Prośbu spaŭniajem.

Haravomu Ul.: Vielmi ciešymsia, što ŭ Vas usio pajšło dobra. Za karespandencyi dziakujem, budziem drukavać. Nie zabyvajcie, pišycie. Pryvitańnie!

Čiviełachimu: Hrošy i karespandencyi atrymali, ščyra dziakujem. Adnu karespandencyju drukujem u hetym numary, a druhuju budziem drukavać u nastupnym. Duža ciešymsia, što ŭ Vas užo raspačałasia kulturnaja biełaruskaja praca. — Rešta budzie ŭ piśmie. — Pryvitańnie!

Žytkievičuu A. Usie patrebnyja Vam infarmacyi budziem staracca sabrać i prysłać piśmom.

A. Žuku: Mataryjały atrymali, dziakujem. „Kuplety", jak bačycie drukujem, rešta słabyja i da druku niepadchodziać. Prosim pisać čaściej.

Viarbinie: Matarjały atrymali, dziakujem. Vierš „Batrak" nadrukujem u nastupnym numary, a rešta — ŭ mieru mahčymaści.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

## KUTOK RAZRYVAK

Pad redakcyjaj U.Paŭlukoŭskaha

### Raźviazańni z № 1 (87).

**Logagryf № 1:** K-orba, T-orba, H-orba.

**Anahrama № 1:** Kot-Tok.

**Zadačy:** 1 — Raspuścić u vadzie. 2 — Pastavić pierad saboju lustra. 3 — Pazaŭčora, učora, siońnia, zaŭtra, pazaŭtra. 4 — Nikoli, bo „zaŭtra“ na zaŭtra zrobicca „siońnia“.

**Arytmetyčnaja zadača № 1** — Šosty kupiec, kupiŭšy „apošniuju pałovu jabłyk i paŭjabłyka“ mieŭ 1 cely jabłyk tamu rešta kupcoŭ adpaviedna kupili: 2, 4, 8, 16 i 32 jabłyki, a ŭsich jabłyk było 63.

**Gieometryčnaja zadača № 1.** — Nahladnaje raźviazańnie daje rysunak.



*Pravidłovyja raźviazańni prysłaŭ Andrej Michalčyk, za što i atrymaŭ jon zbornik vieršaŭ „Шляхам Жыцьця“ J. Kupały.*

## Kuplety.

„Ci pavieryš svatka“ —
Kaža Saŭka Marku:
„Bolej za paŭhoda,
Jak lizaŭ ja skvarku“.

„Vieru, svacie, vieru, —
Bažycca nia treba —
Kryzys... dy vialiki
Ad ziamli da nieba.

Mierajuć nam „roŭnaść“
Mieraju „mniejšości“,
Choć my ŭ svaim kraju
Žyviom u „vienkšości“.

I svabodna ŭsiudy
Na našym abšary
Biadota z ciamnotaj
Bušujuć u pary.

Abaroncy našy
Jak było kaliści
Nad saboj apieku
Mieli... biez karyści.

Razam vajavali
„Za svajo i vaša“
A ciapier nia znajuć
Što ich, a što naša.

Viestka prylacieła
Važnaja z Varšavy:
Što vodka stanieła...
Znaj: mienš jeści stravy.

Svarycca Mikita
Z žonkaju svajoju,
Što pud žyta ŭčora
Prapiła z kumoju.

Jak vidać, japoncam
Chočacca harbaty,
Za joju pasłali
U Kitaj harmaty.

Harmaty dakučnaj
Prośbaju svajoju,
Nie dajuć kitajcam
Try hady spakoju.

Italjaniec maje
Rymskuju naturu,
Sieje ŭ čornych poli
„Biełuju kulturu“.

Abisyniec płodu
Raboha nia lubić
I dzie tolki ŭdasca
Italjanca čubić. **A. Žuk.**